# СВАБОДА

22 — 28 лістапада 1994 г.

№44

Кошт 80 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 50 000

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41


## БНФ рыхтуецца да выбараў

**У суботу, 19 лістапада адбылося паседжаньне Сойму БНФ.**

Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык зрабілі паведамленьні аб палітычнай сытуацыі ў краіне, а сябры Сойму Ул.Анцулевіч і В.Чуйко спыніліся на некаторых акалічнасьцях арганізацыі будучай выбарчай кампаніі і перарэгістрацыі партыі БНФ згодна з новым заканадаўствам. Было адзначана, што бальшыня раённых радаў Народнага Фронту падрыхтаваная да пачатковага этапу выбараў — вылучэньня прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі і вызначэньня канкрэтных асобаў, якія могуць балятавацца ў парлямант. Удзельнікі Сойму пацьвердзілі імкненьне да стварэньня дэмакратычнага блёку і да канструктыўнага дыялёгу з усімі палітычнымі сіламі, якія выступаюць за незалежнасьць Беларусі і рынкавыя рэформы.

Тымчасам працягваюцца паездкі прадстаўнікоў БНФ па Беларусі. У мінулыя выходныя Смаргонскі раён наведалі дэпутаты Вярхоўнага Савету Валяньцін Голубеў, Мікола Крыжаноўскі, Юрась Беленькі і старшыня Свабоднага прафсаюзу Генадзь Быкаў.

Яны сустрэліся з кіраўнікамі горада і раёну, мясцовымі прадпрымальнікамі, а таксама з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятарамі. Потым, падзяліўшыся на дзьве групы, госьці аб'ехалі восем вёсак і мястэчак раёну.

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ старшыня Смаргонскай філіі БНФ Віктар Шоць, пасьля гэтых сустрэчаў у раёне ўтварылася некалькі новых суполак Народнага Фронту. У вёсцы Солы, напрыклад, у суполку БНФ аб'ядналася 14 чалавек. А ўвогуле за гэтыя два дні раённая арганізацыя БНФ папоўнілася 60 чалавекамі. Сярод новых сяброў БНФ — галоўны ўрач бальніцы, намесьнік старшыні калгасу, дырэктары вясковых школаў, настаўнікі, дактары, рабочыя, сяляне.

**Яўген АЛАДКА**

## Шаладонаў лічыць, што дэнамінацыя парушыла правы грамадзянаў

**Генэральны пракурор Васіль Шаладонаў накіраваў прэм'ер-міністру Міхаілу Чыгіру ліст, у якім выказаў сваю ацэнку пастановы Кабінэту міністраў і Нацыянальнага банку «Аб дэнамінацыі беларускага рубля».**

Васіль Шаладонаў адзначыў, што гэтая пастанова груба парушае правы грамадзянаў, якія мелі няшчасьце палажыць свае грошы на зьберагаҥьне ў Ашчадны банк, бо дэнамінацыя рубля рэальна зьменшыла суму ўкладаў. Для аднаўленьня законнасьці, на думку Генэральнага пракурора, варта прыняць рашэньне аб вывадзе з-пад дэнамінацыі ўкладаў, што захоўваліся ў Ашчадным банку да 26 ліпеня 1993 г., бо якраз з 26.07.93 былі выведзеныя з абарачэньня грошы Дзяржбанку СССР. Сп. Шаладонаў паведаміў сп. Чыгіру, што лічыць немэтазгодным далей ігнараваць пытаньня аб аднаўленьні парушаных правоў укладчыкаў.

Зрэшты, гэта ня больш як пажаданьне Генпракурора галаве Кабінэту міністраў, бо наўрад Міхаіл Чыгір адразу ж возьмецца за выпраўленьне недахопаў, на якія зьвярнуў увагу Васіль Шаладонаў.

**СІМ**

## Антановіча — паслом у Пэкін?

**Былы партыйны функцыянэр Іван Антановіч, які ў часы кіраваньня Кебіча мільгацеў на нашых тэлевізійных экранах у якасьці прафэсара-аналітыка, здаецца, паразумеўся і з новым рэжымам.**

З дасьведчаных крыніцаў карэспандэнт СВАБОДЫ даведаўся, што Івана Іванавіча зьбіраюцца прызначыць амбасадарам Беларусі ў Кітаі. Гэтае пытаньне абмяркоўваецца цяпер у прэзыдэнцкай адміністрацыі, і ў хуткім часе павінна быць прынятае рашэньне — станоўчае альбо адмоўнае.

Прэзыдэнт Лукашэнка, як вядома, мае афіцыйнае запрашэньне наведаць КНР і зьбіраецца паехаць туды, узгадняецца дата візыту. Магчыма, прэзыдэнт зьявіцца ў Пэкіне разам зь Іванам Іванавічам.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Карову прэзыдэнта на мяса пакуль не здалі

**Нядаўна ў рэдакцыю СВАБОДЫ патэлефанавалі са Шклова і паведамілі, што карову прэзыдэнта Лукашэнкі нібыта здалі ў саўгас, бо не было каму назапасіць на зіму кармоў — гаспадара ж няма на мейсцы.**

Каб спраўдзіць гэтую інфармацыю, карэспандэнт СВАБОДЫ патэлефанаваў у вёску Рыжкавічы, да жонкі прэзыдэнта Галіны Радзівонаўны. Спадарыня Лукашэнка абвергла тыя чуткі і сказала, што Мілку ў саўгас яна не здавала і здаваць пакуль не зьбіраецца. На пытаньне карэспандэнта, ці ня мае Галіна Радзівонаўна намеру пераехаць у Менск да мужа, яна цьвёрда адказала: «Не!»

**Анатоль МІРСКІ**



**Апошні шанец** →

## Цыбульная прэмія

Многія работнікі сельскай гаспадаркі ў дадатак да апублікаванага прэзыдэнцкага віншаваньня з нагоды прафэсыйнага сьвята атрымалі яшчэ падарункі ад свайго начальства.

Напрыклад, у Слонімскай аграпрамтэхніцы, дзе працуе 630 чалавек, кожнага прэміравалі натурай — далі па 10 кіляграмаў цыбулі, па 12 кіляграмаў мукі ды па два літры алею.

**В.В.**

## Ягорку Рыбакову купілі новы лімузын

**Магілёўскі бюджэт нядаўна «пахудзеў» на 62 мільёны рублёў.**

Менавіта столькі каштаваў аўтамабіль «Волга», які купілі новаму шэфу абласнога тэлерадыёаб'яднаньня Ягору Рыбакову. Старшыня Магілёўскага аблвыканкаму М.Грынёў палічыў, што маладому паплечніку прэзыдэнта Лукашэнкі непаважна езьдзіць на «Масквічы», якім карыстаўся былы начальнік мясцовай тэлевізіі і радыё. Навюткую «Волгу» Ягору Рыбакову прыгналі акурат у ягоны дзень нараджэньня (19 лістапада яму споўнілася 24 гады).

Тымчасам 11 творчых супрацоўнікаў абласнога тэлерадыёаб'яднаньня звальняюцца з працы па той прычыне, што незадволеныя дзейнасьцю маладога боса.

**Анатоль МІРСКІ**



Міністэрства сувязі РБ
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЕНТ** на газэту 63887

**СВАБОДА** Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газэту 63887

**СВАБОДА**

Кошт: падпіскі 2400 руб. ___ кап.; пераадрасоўкі ___ руб. ___ кап.

Колькасьць камплектаў: 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

# Канстытуцыйны суд „вэртыкаль“ не парушыў

**«Прэзыдэнт можа быць задаволены рашэньнем Канстытуцыйнага суда», — так пракамэнтаваў дэпутат Валяньцін Голубеў зачытанае сп.Ціхінем рашэньне КС па «прэзыдэнцкай вэртыкалі».**

Рашэньне было абвешчанае ўчора ўвечары. Канстытуцыйны суд прызнаў незаконнай толькі ліквідацыю саветаў ніжэйшага ўзроўню. А ва ўсім астатнім «прэзыдэнцкая вэртыкаль» засталася некранутаю. Разам з тым, як лічыць дэпутат Голубеў, Канстытуцыйны суд ня даў яснага адказу на галоўнае пытаньне: ці адлавядае «прэзыдэнцкая вэртыкаль» Канстытуцыі?

«Чакаць ад Канстытуцыйнага суда поўнай аб'ектыўнасьці ў нашых умовах цяжка, — сказаў сп.Голубеў. — Гэты суд — такое ж дзіця нашага часу, як і ўсе іншыя інстытуты цяперашняй Беларусі. Нават той факт, што прэзыдэнт папярэдне наведаў Канстытуцыйны суд, хутчэй за ўсё паўплываў на ягонае рашэньне». А на думку шэфа прэзыдэнцкай адміністрацыі Леаніда Сініцына, гэты візыт Лукашэнкі ў КС быў «актам добрай волі прэзыдэнта».

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



**На здымку: на паседжаньні Канстытуцыйнага суда група дэпутатаў і шэф прэзыдэнцкай адміністрацыі Л.Сініцын (сядзіць).**

# БНФ лічыць, што прэзыдэнт варты імпічманту

**16 лістапада прадстаўнікі парляманцкай апазыцыі Беларускага Народнага Фронту правялі ў Вярхоўным Савеце прэс-канфэрэнцыю.**

«Наступае час паставіць пытаньне аб адлаведнасьці прэзыдэнта Лукашэнкі ягонай пасадзе, паколькі яго палітыка накіраваная супраць незалежнасьці дзяржавы», — заявіў журналістам старшыня БНФ Зянон Пазьняк.

Выступленьне Аляксандра Лукашэнкі па нацыянальным тэлебачаньні 11 лістапада апазыцыя расцэньвае як «наступленьне на дэмакратычныя каштоўнасьці, свабоду слова, адхіленьне ад дэкляраваных раней прынцыпаў». Прайшло чатыры месяцы, і «літаральна нічога не палепшылася ў нашым жыцьці», — сказаў З.Пазьняк. Паводле ягоных словаў, інфляцыя ў пэрыяд са дня выбараў прэзыдэнта (10 ліпеня) да канца верасьня склала 360 працэнтаў. Рост цэнаў апярэджвае рост заработнай платы у 14 разоў. Непрафэсійна праведзеная дэнамінацыя рубля «сыграла на руку» мафіі. Праграма першачарговых захадаў па выйсьці краіны з крызысу, прынятая два месяцы таму, не працуе і не можа быць выкананая праз сваю супярэчлівасьць. «Такім чынам, — падкрэсьліў лідар БНФ, — за чатыры месяцы пасьля абраньня прэзыдэнта паскораны развал эканомікі, рэальна пастаўленае пад пагрозу існаваньне нашай дзяржавы і яе маёмасьці».

Паводле заявы Зянона Пазьняка, з боку расейскіх палітычных і спраўных колаў праводзіцца палітыка эканамічнага захопу Беларусі і яе ўласнасьці пры дапамозе ўзаконьваньня дзейнасьці фінансава-прамысловых саюзаў на яе тэрыторыі. «Мы маем дастаткова фактаў, — заявіў журналістам лідар парляманцкай апазыцыі, — якія сьведчаць аб тым, што з Расеяй вядуцца перамовы на здачу маёмасьці нашай дзяражвы». Гэта найперш пагадненьне аб мытным саюзе і дамова з Расеяй аб дружбе, якія даюць дастатковыя падставы для гэтага.

**Андрэй СЕРАДА**
**БелаПАН**

**Сябры Беларускага Народнага Фронту выказваюць глыбокае спачуваньне старшыні Рады БНФ Партызанскага раёну г.Менска Міколу ПРАТАСАВУ з прычыны сьмерці маці.**

# Свабодны прафсаюз таксама ў апазыцыі

**У лягеры палітычных праціўнікаў Аляксандра Лукашэнкі — саліднае папаўненьне.**

Як паведаміў старшыня Свабоднага прафсаюзу Беларусі (СПБ) Генадзь Быкаў, арганізацыя, якою ён кіруе і якая да нядаўняга часу шукала шляхоў супрацоўніцтва з Аляксандрам Лукашэнкам, цяпер «становіцца ў жорсткую апазыцыю да прэзыдэнта і будзе зь ім змагацца ўсімі мерамі, якія не выходзяць за рамкі Канстытуцыі». Такое рашэньне прынятае пасьля таго, як А.Лукашэнка на паседжаньні ўраду 12 лістапада публічна абвінаваціў СПБ у дэстабілізацыі абстаноўкі на прадпрыемствах. Кіраўніцтва Свабоднага прафсаюзу расцэньвае гэтую заяву прэзыдэнта як грубую правакацыю. «З нас спрабуюць зрабіць «ворагаў народа», якія перашкаджаюць прэзыдэнту стрымаць сваё перадвыбарчае абяцаньне і запусьціць да Новага года ўсе заводы і фабрыкі. Але гэта ж абсюрд. Са ста прадпрыемстваў, што не працуюць, толькі на адным ёсьць пярвічная арганізацыя СПБ», — заявіў сп.Быкаў.

На пытаньне аб плянаваных Свабодным прафсаюзам канстытуцыйных спосабах барацьбы з прэзыдэнтам, сп.Быкаў адзначыў, што, нягледзячы на даволі напружаную сытуацыю на прадпрыемствах, СПБ не зьбіраецца праводзіць буйных акцыяў пратэсту да Новага года.

**СІМ**

# Лецішча пракурора пад аховай аўтаматчыкаў

**Штодзень спэцыяльны нарад з двух міліцыянтаў Ждановіцкага аддзяленьня міліцыі (Менскі раён) заступае на пост па ахове прыватнага лецішча пракурора Менскай вобласьці Віктара Сіраша.**

Падчас размовы з супрацоўнікамі гэтага аддзяленьня міліцыі карэспандэнт СВАБОДЫ даведаўся, што пракурорскія летнія апартамэнты былі ўзятыя пад ахову пасьля шэрагу крадзяжоў. І таму, каб злодзеі не павыносілі з дому Сіраша ўсе хатнія рэчы, начальнік Ждановіцкага аддзяленьня маёр М.Лучыновіч сваім загадам стварыў новы аб'ект аховы. З 6 гадзін вечара да 10 раніцы два міліцыянты, узброеныя аўтаматамі, добрасумленна «наразаюць кругі» вакол пракурорскага лецішча.

Але апошнім часам міліцыянты асобнага матарызаванага ўзводу, якому даручана сьцерагчы хату Сіраша, пачалі абурацца, што іх прымушаюць займацца не сваёй справай. Не хапае людзей, каб належным чынам падтрымліваць праваарадак на тэрыторыі трох сельсаветаў, — а гэта ні многа ні мала 50 кілямэтраў у радыюсе.

«Але ж наш начальнік ані не зважае на нашыя абурэньні, — шчыра кажа адзін сяржант міліцыі. — У яго ўсё проста: зьявіўся ў аддзяленьні на гадзіну, абразіў ніжэйшага па чыне, скокнуў у «Шкоду» і зьнік».

Дарэчы пра «Шкоду». Міністэрства ўнутраных справаў набыло два такія аўтамабілі, яны прызначаныя для апэратыўнай работы. Кожная каштавала дзяржаве ажно 8 тысяч даляраў. Адну «Шкоду» перадалі Ждановіцкаму аддзяленьню міліцыі. Аднак ні на адну апэрацыю міліцыя на ёй ня выехала. Машынай карыстаецца выключна начальнік — маёр Лучыновіч.

**Яўген АЛАДКА**



# Да арыштаў заўжды гатовы!

**Заява прэзыдэнта Лукашэнкі аб тым, што вінаватыя ў неабгрунтаваным павышэньні цэнаў будуць арыштаваныя, атрымала нечаканы рэзананс ва ўправе па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю (УБЭЗ) Міністэрства ўнутраных справаў.**

Нагадаем, што гэтая пагроза прэзыдэнта прагучала 11 лістапада ў ягоным телевізійным выступе. А на наступны дзень, у суботу, супрацоўнікі раённых, гарадзкіх, абласных і рэспубліканскіх падразьдзелаў па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю былі выкліканыя на працоўныя месцы. Такім чынам кіраўніцтва УБЭЗ прадэманстравала гатоўнасьць выконваць усе ўказаньні прэзыдэнта. Аднак ніякіх канкрэтных распараджэньняў у гэты дзень так і не паступіла. Праседзеўшы ўвесь выходны ў службовых кабінэтах, супрацоўнікі УБЭЗ пайшлі па дамах.

**СІМ**

# Служба кантролю рэкамэндуе звольніць старшыню Дзяржкамспорту

**Начальнік прэзыдэнцкай службы кантролю Васіль Далгалёў накіраваў Аляксандру Лукашэнку і Міхаілу Чыгіру ліст, у якім паведаміў пра вынікі праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасьці Нацыянальнага Алімпійскага камітэту і Дзяржаўнага камітэту па спорце.**

За выяўленыя злоўжываньні служба кантролю прапанавала прэзыдэнту Лукашэнку звольніць з пасады старшыню Дзяржкамспорту Уладзімера Рыжанкова, які зьяўляецца таксама прэзыдэнтам НАК Беларусі.

**СІМ**

## «Магілёў» глядзець забаронена

**Чыноўнікі Магілёўскага кінапракату ня хочуць выпускаць на экраны фільм «Магілёў».**

Гэтая гісторыка-дакумэнтальная стужка была зьнятая на сродкі дэмакратычных арганізацыяў Магілёўшчыны. На думку спэцыялістаў, у фільме «Магілёў» упершыню поўна і аб'ектыўна адлюстраваныя гістарычныя падзеі і факты пра трагічны лёс Усходняй Беларусі.

Фільм быў амаль бясплатна перададзены абласному аддзяленьню дзяржаўнага кінапракату, які, аднак, ня выпусьціў яго на экраны. Стужка амаль год праляжала на паліцы і толькі зрэдку дэманстравалася ў закрытых установах — турмах, выпраўленчых калёніях і вайсковых частках. Тымчасам запыты школаў і вучэльняў кінапракат ігнаруе. Аўтары і спонсары фільма зьвязваюць гэта з тым, што кінапракатнаю кантораю кіруе былы партыйны функцыянэр таварыш Клімаў.

**Натальля РОСЛАВА**

# У Кебіча быў Замяталін, а ў Лукашэнкі ёсьць свой палкоўнік

**У прэзыдэнцкай радзе, як вядома, усяго тры чалавекі, адзін зь якіх — сівы прыгажун мужчына сталага веку Сяргей Посахаў.**

Сярод дарадцаў прэзыдэнта ён самы старшы па званьні. У агульных рысах гісторыя ягонай кар'еры такая. Палкоўнік Посахаў доўгі час служыў намесьнікам начальніка палітаддзела ў штабе 28-й арміі, які знаходзіўся ў Горадні. Чалавек ён амбітны і слыніцца на дасягнутым не зьбіраўся. Аднак нічога не атрымлівалася, і камандаваць усім палітаддзелам яму не давалі. Тады Посахаў замахнуўся зрэфармаваць Савецкую армію, аднавіўшы ў ёй суды афіцэрскага гонару ды іншыя лепшыя традыцыі царскай расейскай арміі. У Маскву быў дасланы рапарт, і там нарэшце вырашылі, што Посахаву можна даверыць цэлы палітаддзел. Праз некаторы час задаволены палкоўнік паехаў у горад Бабруйск прымаць армейскі палітаддзел.



Адстаўны палкоўнік Посахаў

Аднак здарылася неспадзянка ў выглядзе жнівеньскага путчу. Палітаддзелы скасавалі, а палкоўніку Посахаву сказалі «да пабачэньня».

Змушана павесіўшы ў шафу свой палкоўніцкі шынэль, Посахаў, аднак, не суняўся. І вось мы ўжо бачым яго ў якасьці каардынатара «Народного движения Беларуси» па Гарадзенскай вобласьці. Самы яскравы прыклад ягонай дзейнасьці такі. Успомнім, як на пачатку года парляманцкая большасьць «зьняла» Шушкевіча, скарыстаўшы для гэтага ў якасьці інструманту Лукашэнку. Палкоўнік Посахаў быў у тыя дні на сёмым небе ад шчасьця. Аднак яго абурала, што ня ўсе падзяляюць радасьць. І ён піша заяву абласной арганізацыі НДБ, якую надрукавала гарадзенская шматтыражная газэта «Высота».

У гэтай заяве, падпісанай Посахавым, выказваецца абурэньне, што некаторыя mass-media крытычна паставіліся да прымусовай адстаўкі Шушкевіча, ён называе гэта «подрывной кампанией», паколькі «тенденциозный подбор фактов и откровенно пробэнэрофовская подача материала создают искаженное представление о том, что основная масса населения якобы сожалеет и протестует». Асабліва разьюшыла адстаўнога палкоўніка, што свой пратэст заявіла і абласная канфэрэнцыя БНФ. Стыль палкоўніцкай заявы ў гэтым мейсцы дасягнуў амаль цыцэронаўскай моцы: «Вызывает возмущение попытка кучки никого и ничего не представляющих граждан присвоить право вещать от имени полуторамиллионного населения области». Ад імя НДБоўцаў Посахаў заявіў тады, што адстаўка Шушкевіча зьяўляецца «закономерным итогом краха политики Беловежского сговора» і г.д. Адным словам, вядомая старая песьня.

Невыпадкова, што Посахаў прыглянуўся Лукашэнку, і той зрабіў яго адказным — паводле словаў самога палкоўніка — за «дыялог з грамадзкасьцю, працоўнымі калектывамі, палітычнымі партыямі, супольнасьцямі вучоных і пісьменьнікаў». Палкоўнік нават наведвае вучоныя саветы ВНУ, каб знайсьці людзей для будучага кансультатыўнага органу пры прэзыдэнце. А што датычыць сёньняшняй прэзыдэнцкай рады, дык ейным членам неабходна было мець: інтэлектуальны дар, глыбокую унутраную пачцівасьць і сумленнасьць, а таксама уменьне кантактаваць з масамі. Пра ўсё гэта даведаліся гледачы гарадзенскага тэлебачаньня, перад якімі нядаўна выступіў сам Посахаў.

Разам з прэзыдэнтам таварышу Посахаву давялося нядаўна наведаць Маскву і сустрэцца з кіраўнікамі, як ён сам сказаў, «так называемых демократических сил и непримиримой оппозицией». Сам Гайдар па сакрэце прызнаўся Посахаву, што яму вельмі падабаецца Лукашэнка. Аднак прэзыдэнцкага дарадцу засмуціла, што ў Маскве ніхто ня ведае, дзе знаходзіцца беларуская амбасада, а намеснік расейскага міністра замежных справаў Пастухоў нават ня ведае прозьвішча нашага пасла. Дзякуючы Посахаву мы таксама даведаліся, што нашага прэзыдэнта больш любяць расейцы ды ўкраінцы, чымся беларусы. З Расеі Лукашэнку паступіла 15 000 лістоў, а з Украіны — 6000, і ўсе станоўчыя. Тымчасам зь Беларусі прыходзяць адныя скаргі, па цэлай тысячы ў дзень.

У Маскве палкоўнік Посахаў наведаў рэдакцыю газэты «Известия», дзе, калі верыць ягоным словам, галоўны рэдактар папрасіў у яго прабачэньня за скандальна вядомы артыкул пра «шклоўскія агуркі». Прэзыдэнцкі дарадца таксама паведаміў, што Лукашэнка ў абедзенны перапынак — з 13 да 15 гадзін — асабіста чытае ўсе газэты і балюча ўспрымае кожную крытычную публікацыю ў свой адрас. (Як тут не прыгадаць сэнтэнцыю з булгакаўскага «Сабачага сэрца» наконт таго, што чытаньне за абедам газэт, а асабліва савецкіх, шкодзіць страваваньню...)

Што датычыць самога Посахава, дык ён нястомна езьдзіць па Беларусі, высьвятляе настроі ў грамадзтве і стаўленьне народа да прэзыдэнта. Ён гаворыць, што ў многіх мейсцах былыя групы падтрымкі Лукашэнкі літаральна ўзялі ўладу ў свае рукі. Гэта выклікана нібыта тым, што чыноўнікі амаль пагалоўна крадуць. Праваахоўныя органы Посахаў лічыць лянівымі і няздольнымі перамагчы «стоглавую гидру», а таму ён марыць правесьці ў нас апэрацыю «чыстыя рукі» — такую, як у Італіі.

**В.ВАСІЛЕВІЧ**

## «Грандэ адукар» вяртаецца на радзіму

**Лідзкія раённыя ўлады вырашылі ўвекавечыць памяць пра вучонага-асьветніка Ігната Дамейку, які ў 1823—1831 гг. жыў у маёнтку Заполье.**

Тут будзе закансэрваваны падмурак спаленага ў апошнюю вайну запольскага дома, а перад уездам пастаяць помнік-знак. У вясковай школе мяркуецца стварыць музэй І.Дамейкі, а сама школа, калі пагодзяцца абласныя ўлады, будзе насіць ягонае імя. Райвыканкам таксама параіў Крупскаму сельсавету назваць у Крупках імем І.Дамейкі вуліцу.

У пастанове адзначаецца, што ў Чылі ёсьць горад Дамейка, аднайменны горны хрыбет, а ў Сант'яга яму пастаўлены помнік з надпісам па-гішпанску «Вялікаму асьветніку» ("Грандэ адукар"). Цікава таксама, што чылійская салетра называецца «аманітас дамейканас». Ёсьць таксама мінэрал «дамайкіт», малюск Nautilus Domeiki і фіялка Дамейкі. Як бачым, нашыя спробы па ўвекавечаньні памяці славутага земляка, які нарадзіўся ў сёньняшнім Карэліцкім раёне, куды больш сьціплыя. Беларуская энцыклапэдыі, дарэчы, дагэтуль ня згадваюць пра Ігната Дамейку.

**А.Г.**

## У хлебазавода зьявіўся канкурэнт

**Наваполацкая рэстарацыя «Беларусь» адмовілася ад паслуг мясцовага хлебазавода.**

Падлічыўшы выдаткі, якія нясе рэстарацыя на дастаўку 30 боханаў хлеба, кіраўніцтва «Беларусі» вырашыла самастойна выпякаць хлеб. Сваёй новай прадукцыяй рэстарацыя будзе забясьпечваць таксама і іншых спажыўцоў.

**Тамаш ГУРБА**

## Не пішыце на сьценах, не ламайце дзьверы!

**У мястэчку Рось Ваўкавыскага раёну засялілі першыя 5 дамоў у гарадку для вайскоўцаў, будаўніцтва якога фінансавала Нямеччына.**

На невялікай урачыстасьці навасёлам настойліва нагадвалі, што трэба берагчы жытло, і выдалі кожнаму «Памятку новоселу городка Россь». У ёй жыхарам на працягу года абяцаюць рамантаваць жыльлё, калі толькі яны самі ня будуць псаваць яго. Дарэчы, ёсьць зьвесткі, што асобных удзельнікаў камісіі фактычна прымусілі падпісаць акт прыёмкі, бо ня ўсё было зробленае як мае быць. Нездарма ж у памятцы гаворыцца пра нейкія «скрытые дефекты», якія могуць выявіцца на працягу года.

Спэцыялісты, між тым, лічаць гарадок у Росі найлепшым зь сямі такіх пабудаваных на Беларусі. Замест гмахаў тут пабудаваныя больш утульныя 3-х і 4-х павярховыя дамы, не падобныя на савецкія. Невыпадкова ж, мабыць, аб'яднаньне «Гроднажылбуд», якое ўдзельнічала ў будоўлі, рэклямуе гэты гарадок як «пэрліну» жыльлёвага будаўніцтва.

**В.В.**

## З «вайсковай» цэглы пабудуюць царкву

**СВАБОДА паведамляла, як у Ваўкавыску прадалі з малатка гаўптвахту ды іншыя вайсковыя памяшканьні.**

У горадзе ёсьць яшчэ адзін вайсковы гарадок, які ўлады вырашылі не прадаваць, а бясплатна раздаць будынкі розным установам ды арганізацыям. Напрыклад, каравульнае памяшканьне пяройдзе да Таварыства інвалідаў. Два вялікія гаражы раскідаюць на цэглу, а зь яе пабудуюць царкву(!), каб задаволіць просьбу прыхаджанаў Мікалаеўскага праваслаўнага храму. Штаб і КПП аддаюць гарадзкому аддзелу адукацыі. Застаюцца яшчэ казармы, лазьня, сьвінарнік ды іншыя пабудовы, якія гарадзкія ўлады ня ведаюць, каму аддаць.

**В.М.**

## Аршанская маёмасьць пойдзе з малатка

**29 лістапада ў Воршы адбудзецца аўкцыён па продажы камунальнай маёмасьці.**

На торг выстаўляюцца 5 крамаў, фотаатэльле, цырульня, пункт гуказапісу, а таксама будынак лазьні.

**В.В.**

## Летувіскі цэнтар у Рымдзюнах закансэрвуюць

**Астравецкі райвыканкам вырашыў закансэрваваць на зіму будоўлю летувіскага нацыянальна-асьветнага цэнтру ў вёсцы Рымдзюны.**

Будаўніцтва было спыненае яшчэ ўвесну, бо ня быў вызначаны статус будучага цэнтру. Дзеля гэтага была створаная супольная беларуска-летувіская міжурадавая камісія. Аднак яна дагэтуль не прыйшла ні да якага рашэньня, таму астравецкія ўлады зьвярнуліся да камісіі з хадайніцтвам, каб статус цэнтру быў як найхутчэй вызначаны і можна было б працягваць будаўніцтва.

**С.МАКС**

## У Ляхавічах замарозілі дзяўчат

**Маладыя дзяўчаты, што працуюць у цэхах Ляхавіцкага камбінату бытавога абслугоўваньня, у роспачы: умовы іхняй працы нагадваюць халодны блякадны Ленінград.**

У работніц увесь час мерзнуць рукі, яны вымушаныя пастаянна працаваць у верхняй вопратцы, што парушае правілы бясьпекі працы. Многія ня вытрымалі такіх умоваў, захварэлі, а то і звольніліся. Яшчэ горш з зарплатай — яна складае ўсяго 18—20 тыс. рублёў у месяц. Усё гэта падштурхнула работніц напісаць пэтыцыю кіраўніцтву камбінату, але дырэктар сп. У.Сокал ня бачыць іншага выйсьця, як спыніць работу прадпрыемства, бо няма грошай ні на зарплату, ні на ацяпленьне. Адміністрацыя зьвярнулася ў выканкам, каб ён дазволіў на зімовы пэрыяд зачыніць камбінат.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Прыватызацыя па-пінску

**Толькі з другой спробы ўдалося сабраць пінскіх дэпутатаў на чарговую сэсію гарсавету, каб разгледзець нарэшце пытаньне аб праграме прыватызацыі камунальнай маёмасьці.**

Пасьля гарачых дыскусіяў праграма ўсё ж была зацьверджаная. У адпаведнасьці зь ёю да канца гэтага году ў Пінску павінна быць прыватызавана 50% аб'ектаў гарадзкога гандлю. Аднак ніводнай канкрэтнай крамы для прыватызацыі сэсія ня вызначыла. Дэпутаты далі «дабро» толькі на сем недабудаваных аб'ектаў рознага прызначэньня.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Чаму Лукашэнка стварае канфрантацыю

З усіх супярэчлівых якасьцяў малапрадказальнага палітыка па прозьвішчы Лукашэнка бясспрэчна можна адзначыць, бадай, адно: ён нічога ня робіць выпадкова. Любое ягонае нібыта недарэчнае эмацыйнае выказваньне насправўдзе выяўляецца загадзя прадуманым і падрыхтаваным крокам. Як кажа прэзыдэнцкі прэс-начальнік Фядута: «Люблю экспромты, асабліва добра падрыхтаваныя». Праўда, з прычыны адметнасьцяў свайго характару ды спэцыфікі папярэдняй працы ў саўгасе Лукашэнка яшчэ не навучыўся строга прытрымліваацца складзенага сцэнару.

Тым ня менш, скандальна вядомыя выступы прэзыдэнта 11—12 лістапада, нягледзячы на ўсе іхныя «лірычныя адступленьні», відавочна, былі загадзя сплянаванай самім Лукашэнкам акцыяй. «Народны прэзыдэнт" згуляў у небясьпечную, але ім любімую і часам эфэктыўную гульню пад назваю «падняцьце рэйтынгу». У гэтым выпадку Лукашэнка дасягнуў трох даволі розных мэтаў.

**Па-першае, ён рашуча «апусьціў» магчымыя палітычныя амбіцыі членаў сваёй каманды.**

Як памятаеце, асноўным зьместам усёй дапрэзыдэнцкай дзейнасьці Лукашэнкі было мэтанакіраванае прыніжэньне палітычных канкурэнтаў і зьмешваньне іх у адну антынародную карупцыйную кучу. На гэтым фоне, безумоўна, сам Лукашэнка выглядаў адзіным шчырым змагаром за народнае шчасьце.

Чатыры месяцы прэзыдэнцтва паказалі, што ў гэтым «змаганьні» яму непатрэбныя бліскучыя палпечнікі. А таму 11—12 лістапада члены каманды прэзыдэнта былі пастаўленыя ў трагікамічную ролю патаемных народных нядобразычліўцаў, якіх палымяна выкрывае адзіны народны заступнік. Натуральна, першай, яшчэ самастойнай рэакцыяй паважаных міністраў было зразумелае жаданьне апраўдацца: «Невінаватыя мы, яны (цэны) самі прыйшлі». Але ў панядзелак, паразважушы самі (ці з дапамогай прэзыдэнта) прэм'ер і ягоныя намесьнікі ўжо дэманстравалі ўзоры адзінадушнасьці і дзяржаўнай мудрасьці. Яны настойліва пераконвалі сябе і журналістаў, што нічога сур'ёзнага не адбылося і курс на рынкавыя рэформы не пераменіцца.

Цяпер Лукашэнка можа быць упэўнены: што б ён ні заяўляў, ягоны Кабінэт будзе толькі згодна ківаць галовамі. Прэзыдэнт адназначна вызначыў для членаў сваёй каманды рамкі дазволенага: далдоньце пра «курс рэформаў» колькі хочаце, але ніхто з вас не павінен прэтэндаваць на самастойную палітычную ролю. Па ўсім відаць, якраз гэта і называецца «каманда прагматыкаў».

**Другое — і самае відавочнае — «дасягненьне» Лукашэнкі за апошні тыдзень — набыцьцё ім процьмы сапраўдных ворагаў.**

Гэты вынік, як я ўжо падкрэсліваў, напэўна быў загадзя сплянаваны і лёгка тлумачыцца асаблівасьцямі палітычнай манэры Лукашэнкі. Гэты папулісцкі палітык, стаўшы прэзыдэнтам, так і не схацеў адысьці ад свайго вельмі выгаднага іміджу «адзін супраць усіх», таму яму патрэбны вораг — і чым іх болей, тым лепей. З металям у голасе і з намаляванай на твары зацятай рашучасьцю прэзыдэнт паведаміў народу, што супраць яго ўжо аб'ядналіся ўсе — ад камуністаў да нацыяналістаў (заўважце, мэтад усё той жа — усіх у адну кучу. Засталося толькі абнародаваць адрасы ды яўкі братаньня Пазьняка і Чыкіна). Але ж Лукашэнка сам стварыў такую сытуацыю — сваімі заявамі і дзеяньнямі. Нават у першыя сто дзён, калі яго фактычна ніхто не крытыкаваў, прэзыдэнт у кожным выступе навальваўся на сваіх уяўных апанэнтаў і абураўся шалёнай крытыкай у прэсе, нібы яна сапраўды была. На адной з прэс-канфэрэнцыяў у верасьні ён адшукаў «змову» (слова Лукашэнкі) сярод журналістаў. Бач ты, «Народная газета» паставіла матар'ял Карпенкі, «Звязда» узяла інтэрвію ў Казлоўскага, а «Советская Белоруссия» апублікавала абураныя лісты чытачоў. На самой справе, сытуацыя ў першыя тры месяцы праўленьня была для Лукашэнкі ўнікальная: ніхто яго сур'ёзна не крытыкаваў, прэса сьцішылася, чакаючы вырашэньня свайго лёсу, выбаршчыкі прагнулі «манны нябеснай»... Усе маўчалі ў чаканьні, але Лукашэнка ўпарта цьвердзіў адно і тое ж: паўсюль процьма ворагаў. Яны так былі яму патрэбныя, гэтыя ворагі! Лукашэнка любіць сваіх ворагаў, бо яны працуюць на падтрымку ягонага іміджу. Асабліва ён любіць тых, хто фактычна ня можа яму нічога зрабіць. У Канстытуцыйнага суда прэзыдэнт адразу ж папрасіў прабачэньня, бо хутка зразумеў, з кім трэба «жыць дружна». Што ж да астатніх, то тут Лукашэнка зь відавочным задавальненьнем «падстаўляецца», каб быць мішэнню для крытыкі як справа, так і зьлева. А сам ён «ні з правымі, ні зь левымі, а з народам» — такі вось спэцыфічны «цэнтрыст». Канфрантацыя Лукашэнку неабходная, як Ельцыну быў неабходны Хазбулатаў, а сёньня Жырыноўскі. Цяпер, калі ворагі «выявіліся» і пачалі сапраўды змагацца з прэзыдэнтам, ён будзе адчуваць сябе нібы рыба ў вадзе — яму ёсьць на каго сьпісаць прычыны сваіх эканамічных няўдач.

**Трэцяе «дасягненьне» лукашэнкаўскага «сьветлага панядзелка» — сапраўднае падняцьце рэйтынгу прэзыдэнта сярод пэўнай люмпэнізаванай часткі нашага насельніцтва.**

Сам Лукашэнка ў кароткім інтэрвію для «Панарамы» прастадушна прызнаўся, што яго больш за ўсё хвалюе тое, як захаваць рэйтынг. Мне ж чамусьці заўсёды здавалася, што кіраўніка дзяржавы павінна хваляваць крыху іншае — праблемы краіны. Відавочна, аднак, што Лукашэнка дзеля шырокай папулярнасьці гатовы ісьці на любыя антыэканамічныя рашэньні, хоць на якія антыдзяржаўныя выказваньні.

Што ж да панічных цэнаў, то мне на розум прыходзіць такая наіўная аналёгія. У адным мультфільме быў маленькі певеньчык, які кожную раніцу пяяў — і пасьля ўзыходзіла сонца. І вось аднойчы ён, як заўсёды, кукарэкае, а сонца не ўзыходзіць — хмары яго засланілі. Небарака нават голас сарваў — а яно ўсё не ўзыходзіць, а цэны ўсё не зьніжаюцца... Дарэчы, фінал мультыку такі — пакуль певеньчык плакаў над лёсам сваім і свайго курынага народу, сонца ўзышло само — па законах прыроды...

Зрэшты, не знайшлося ніводнага наіўнага чалавека сярод рознакаляровых беларускіх журналістаў і палітыкаў, які сур'ёзна паверыў бы ў тое, што Лукашэнка надоўга панізіць цэны. Увогуле кажучы, гэта вяршыня цынізму і крывадушнасьці — гучна панізіць цэны на некалькі танных прадуктаў, ведаючы, што праз пару тыдняў яны вернуцца назад. Аднак ва ўсім тым спэктаклі ёсьць стратэгічная мэта: прывучыць народ да пакланеньня адзінаму збавіцелю, «бацьку». Ніхто ня выратуе, акрамя Лукашэнкі, хто супраць яго — той супраць народу. Часам мне здаецца, што Лукашэнку зусім ня трэба, каб мы сталі багатымі, нацыянальна сьвядомымі, унутрана незалежнымі і свабоднымі, — бо такія людзі ніколі ня выберуць палітыка кшталту Аляксандра Рыгоравіча. Гэтым, дарэчы, і тлумачацца многія ягоныя антыбеларускія і антынезалежніцкія заявы, як і тое, чаму ўсе нацыянальныя беларускія рухі зьяўляюцца для яго палітычнымі апанэнтамі.

Стала ўжо афарызмам: «Хворае грамадства абрала хворага прэзыдэнта». Дый ён сам, здаецца, падазрае, што здаровая эўрапейская нацыя на такога палітыка, як Лукашэнка, проста не зьвярнула б увагі. Ягоны электарат — бедныя і слабыя, прыніжаныя і зьняважаныя (якіх, на няшчасьце, у нас бальшыня), ды яшчэ людзі са спэцыфічнымі схільнасьцямі да «ачышчэнства». І, зразумеўшы гэта, Лукашэнка пакуль падыгрывае толькі самым недэмакратычным пачуцьцям нашых грамадзянаў: «зьняць, распусьціць, заняць канструктыўную пазыцыю, арыштаваць». Шчыра кажучы, часам вельмі няёмка становіцца жыць у сваёй краіне, калі разважаеш аб тым, дзе тая рыса-мяжа, праз якую ніколі не пяройдзе наш прэзыдэнт. А ці ёсьць яна?

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Грамадзяне зямлю выкупляюць. Фэрмэры вяртаюць. Рэформа ідзе

**На даволі простае пытаньне «як ідзе рэалізацыя пакету законаў аб зямлі», адказаць можна гэтак жа проста: ніяк не ідзе. Прычына — экспэрымэнты Аляксандра Рыгоравіча «у галіне кіраваньня». Пакуль у Менску вырашаюць канстытуцыйнасьць «прэзыдэнцкай вэрыткалі», у Шкловах ды Добрушах чакаюць — і нічога ня робяць. Выкананьне зямельных законаў прыпыненае. Да таго моманту, пакуль ня высьветліцца, хто захопіць уладу — «чырвоныя» ці «белыя».**

### Які гараджанін безь зямлі?

У сувязі зь няпэўнасьцю сытуацыі Камітэт па зямельнай рэформе ўнёс прапанову: прадоўжыць тэрмін, у які можна прыватызаваць зямлю, да 1 сакавіка 1995 г. (маецца на ўвазе — па ільготнай цане). У прынцыпе, кошт невысокі — 5-разовая стаўка зямельнага падатку. Хто не ўкладзецца ў тэрмін, будзе вымушаны плаціць па вызначаных Кабінэтам міністраў нарматывах.

Наагул, канечне, акцыя зусім не прымусовая. Хочаш — прыватызуй, ня хочаш — жыві так. Праўда, калі ня хочаш, то прадаць ці закласьці свой надзел нельга. Можна толькі перадаць у спадчыну.

Найболыш актыўна зямлю выкупаюць вакол Менску і ўсіх абласных цэнтраў. Што да чаго, тут людзі даўно ўжо разабраліся. Горш у вёсцы. Калі для гараджаніна аддаць за надзел 12—20 тыс. рублёў — не праблема, то вяскоўцу такая сума ўяўляецца значнай.

Важны псыхалягічны момант: чалавек усё жыцьцё прасядзеў на сваёй зямлі, а цяпер, высьвятляецца, за яе чамусьці трэба плаціць. Ды ў труне я вас бачыў...

«Садаводы-аматары», якія маюць па 2—3 і больш участкаў, на псыхіку ня скардзяцца. Яны проста купляюць зямлю. Можна па-рознаму да гэтага пастаўіцца, але што гэта штуршок да стварэньня рынку зямлі — ясна.

### Хутка нас скупяць

У хуткім часе, верагодна, Вярхоўны Савет нарэшце прыме рашэньне: перадаваць або прадаваць зямлю юрыдычным асобам. У тым ліку, замежным інвэстарам. Значэньне гэтага кроку цяжка пераацаніць. Пасьля яго, можна меркаваць, у краіне пачнуцца сапраўдныя рэформы.

Тымчасам зямельная рэформа ідзе явачным парадкам. Ужо сфармаваліся ўстойлівыя групы перакупшчыкаў. У кожнага ёсьць картатэка на заможных грамадзянаў, якія хацелі б набыць надзел для загараднага бунгаля, але ня маюць на гэта часу. А перакупшчык дзейнічае па даволі простай схеме.

Неафіцыйная цана надзелу сёньня вагаецца ў межах 700—6000 даляраў. Зразумела, скупляюцца найболыш танныя надзелы. Пасьля прадаюцца. Ужо, канечне, не па 700, а па восем і больш тысяч даляраў. Апрача перакупшчыка, ніхто з гэтых грошай нічога ня мае. Гэта, думаю, таксама не таямніца.

Цяпер даволі распаўсюджаная выдача дазволаў на забудову раённымі ці гарадзкімі архітэктарамі. Сам па сабе такі дакумант ня мае юрыдычнай сілы, адзе грамадзяне, не абцяжараныя ведамі, гэтага ня ведаюць. Адзіны сапраўдны дакумант — дзяржакт на валоданьне зямлёй. А яго ня так проста атрымаць. Таму народ дзейнічае па прынцыпе: калі нечага вельмі хочацца, але нельга, то — можна. Тым больш, як кажа мая цешча, «цяпер усе бяруць».

Па даручэньні прэзыдэнта былі праведзеныя (і вядуцца) шматлікія праверкі законнасьці атрыманьня зямельных надзелаў. У гэтым увесь Аляксандар Рыгоравіч, якога разьдзірае на кавалкі імкненьне да справядлівасьці і жаданьне зрушыць зь месца напаўмёртвую эканоміку. Бо праверкі, хутчэй за ўсё, скончацца ціха-мірна: намэнклятура ўмее замятаць сьляды.

### Фэрмэраў не хацелі. Іх і няма

У 1994 г. узьнікла 308 фэрмэрскіх гаспадарак, а сьпыніла існаваньне — 106 (на 1 лістапада). Афіцыйная лічба: усяго ў краіне цяпер існуе 3076 фэрмэрскіх гаспадарак. У параўнаньні з мінулым годам рост зусім нязначны. На тое, канечне, ёсьць прычыны.

Папраўдзе кажучы, на крэдыты, якія дае фэрмэру дзяржава, стварыць гаспадарак нельга. Тым, што ўжо ёсьць, маюць у асноўным натуральны характар: забясьпечваюць самі сябе. Нешта вывозіцца на рынак, але з гэтых даходаў жыць немагчыма. Вельмі многія займаюцца пабочным бізнэсам, некаторыя нават паціху распрадаюць зямлю (асабліва, калі яна паблізу ад горада).

Фэрмэраў, якія жылі б толькі зь зямлі і пры гэтым зводзілі канцы з канцамі, — адзінкі. Дабрабыт бальшыні прыватных гаспадарак грунтуецца на дапамозе калгасу. Ён засее, дагледзіць і зьбярэ — тады парадак. Але ў такім выпадку ўзьнікае пытаньне: каму гэта трэба? Па-сутнасьці фэрмэрства было адной з нашых шматлікіх кампаній. І, як і многія іншыя, яе пасьляхова завалілі. Вясковая бюракратыя фэрмэраў не хацела. Іх і няма.

Праўда, на хвалі кампаніі зямлю атрымаць, пры пэўнай настойлівасьці, можна было ў прынцыпе любому. Цяпер кандыдат мусіць абараніць сваю праграму на пасяджэньні выканкаму. Пры гэтым перавага аддаецца былым калгасным спэцыялістам і проста сельскім жыхарам. Яны пры выхадзе з калгасу могуць запатрабаваць сваю долю. Калі гэтага будзе мала — ім могуць адвесьці зямлю са спэцфонду запасу. Гараджанін можа разьлічваць толькі на спэцфонд. А гэта пераважна хмызьняк, балота. Плюс — вельмі часта — адсутнасьць электрычнасьці, дарог, вады, сувязі і г.д.

Што, урэшце, і трэба было давесьці. Адказныя таварышы могуць сьмела рапартаваць: фэрмэрства — ня наш шлях. І, безумоўна, гэта так — ня іхны.

**Андрэй СЯРЖАН**

